Год III. Студзень № 1 (24)

# Шлях Моладзі

... „Падымайся з нізін, сакаліна сям'я
Над крыжамі бацькоў, над курганамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між славянамі".

ЯНКА КУПАЛА.



ВІЛЬНЯ, 1931 г.

Беларуская Друкарня Ім. Францішка Скарыны — Вільня, Завальная вул. № 6

ЗЬМЕСТ №1.






# „Шлях Моладзі"

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

Цана асобнага нумару 30 гр.

Падпіска на 3 месяцы . . . . 50 гр.
„ на паўгода . . . . . . 1 зл.
„ на год . . . . . . . 2 зл

Заграніцу ўдвая даражэй.

Цана абвестак:

Цэлая старонка . . . . . . . 40 зл.
Паўстаронкі . . . . . . . . 20 зл.
Адна чацьвертая старонкі . . 10 зл.

Абвесткі зьмяшчаюцца толькі на вокладцы.

**Адрас Рэдакцыі:** Вільня, Завальная № 6 — 10. (Wilno Zawalna 6 — 10).

Рэдакцыя адчынена ад гадз. 9 да 3-яй папаўдні.

# Шлях Моладзі

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

| Год III. | Вільня, Студзень 1931 г. | № 1 (24). |
|---|---|---|

## У дзесятыя ўгодкі сьмерці Андрэя Зязюлі.

16.I. сёлетняга году мінула дзесяць гадоў ад сьмерці беларускага паэта кс. Аляксандра Астрамовіча — Андрэя Зязюлі. Вось-жа з гэтай прычыны і пасьвячаем тут колькі думак яго сьветлай памяці і творчасьці.

Аляксандра Астрамовіч радзіўся 26.XI 1878 г. у сялянскай беларускай каталіцкай сям'і ў сяле Навасяды, Гальшанскай гміны, Ашмянскага пав. Вучыўся ён у Ашмянскай павятовай школе, скончыўшы якую паступіў у 1905 г. у каталіцкую духоўную сэмінарыю ў Пецярбурзе. Сэмінарыю скончыў 1910 г. і быў пасьвячаны на ксяндза.

Як ксёндз, працаваў А. Астрамовіч у Ракаве, Валожынскага пав., у Ганнополі пад Менскам, у Сьмілавічах, Ігуменскага пав., у Рубяжэвічах, Стаўпецкага пав., і ў Сенно, Магілёўскай губ., дзе памёр і пахаваны 17.I.1921 г.

Пачаткавае беларускае адраджэньне, якога зярняткі пасьля Фр. Багушэвіча сеяў у першых гадох XX ст. праф. Эпімах-Шыпілла, захапіла такжа і Астрамовіча.

У сэмінарыю ён прышоў сьведамым беларусам. Ужо на школьнай лаве пачаў ён пісаць свае вершы пад мянюшкай Андрэй Зязюля.

Вершы свае друкаваў А. Зязюля ў часопісах: „Наша Ніва“, „Беларусь“, „Сьветач“, „Вольная Беларусь“, „Крыніца“, а так-жа ў асобных кніжыцах: „З роднага загону“, „Слова праўды“ і „Аленчына вясельле“. Апрача гэтага, многа вершаў Зязюлі знаходзяцца ў рукапісах нігдзе дагэтуль недрукаваных. І так пасьля яго сьмерці многа яго вершаў аказалася ў праф. Шыпіллы, часьць у Купалы і найменшая часьць у цяперашняга рэктара Місыйнага Усходняга Інстытуту ў Любліне, кс. Л. Хвецькі, які, на жаль, выяжджаючы з Пецярбурга, пакінуў іх у свайго знаёмага.

Творы А. Зязюлі друкаваныя ўжо, як даведваемся, Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры зьбірае ў вадну цэласьць і прыбіраецца выдаць асобнай кніжыцай яшчэ сёлета з прычыны дзесятых угодкаў сьмерці паэта, а ці будзе суджана ўбачыць калі сьвет гэным вершам, што ў рукапісах пааставаліся на руках розных людзей, — згадаць трудна.

Андрэй Зязюля — гэта выдатны, цалком арыгінальны, беларускі паэт, які праз увагу на зьмест і форму ягонай творчасьці можа быць слушна названы „вясковы лірнік“, які зросься ў вадно цэлае з родным сялом і бесперастанку будзіць яго ад сну векавога.

Кончыў дзед быліну,
Ліру ўзьвесіў узноў
І будзіць з мары-сну
Люд вясковы пашоў.

Зьмест твораў Зязюлі — гэта прадусім шэрае беларускае жыцьцё ў рожных ягоных праявах, якое паэт прыбірае ў прыгожыя паэтыцкія формы і якое будзіць да народнай сьведамасьці.

На пакладзе у сьвіронку
Напаткаў я ліронку
Што ўкурэўшы ляжала
І бутвець пачынала...

Грай радзімай старонцы,
Аб прыгожай вясонцы,
Што як зорачка ясна
К нам ідзе доля красна.

Зьместам Зязюлінай творчасьці служыць так-жа і беларуская прырода, якой паэт удзяляе ня мала месца і якую апявае з прастадушнай і сардэчнай любасьцяй.

Дыхануў сухавей
У пагодлівы дзень,
Скалыхнуўшы травіцай няроўнай;
У ляску салавей,
Захаваўшыся ў цень,
Захліпаецца песьняй чароўнай.

Што да формы вершаў Зязюлі, дык яна, як і іхны зьмест, чаруе нас сваей дзіўнай прастатой, living рознаякасьцяй і лёгкасьцяй; чаруе такжа нас верш Зязюлі і чысьцінёй беларускай мовы, яе ёмкасьцяй і мілагучнасьцяй.

Вершы Зязюлі поўны шчырага патрыотызму, сардэчнай любові Беларусі, а так-жа поўны глыбокай веры ў лепшую будучыню беларускага народу.

Старонка мілая, Ты многімі забыта,
Шмат сьпіць сыноў Тваіх адвечным сном!
Зямелька родная, сьлязьмі і потам зьліта —
Мы да жыцьця з табой узноў уваскрасём.
Хоць знойдзецца ў Табе выродны валакіта,
Катораму Твая да неспадобы сьвіта
І не адзін прадасьць цябе Іскарыёт,
Але табе яшчэ ўсёж, маці семяніта,
Сяляне верныя, што сеяць жыта,
А з іх паўстане Твой народ.

Паэзія Зязюлі навеяна такжа жывым пачуцьцём рэлігійным. Праўда, матывы для сваіх песьняў паэт бярэ з акружаючага яго сялянскага быту і роднай прыроды, але апошняй прычынай, якая яго панукае іграць на беларускай ліры, — ёсьць Бог, Тварэц сьвету, як першая і апошняя

падстава Красы і Справядлівасьці. Для Зязюлі ўсё беларускае адраджэньне — гэта Божая справа.

Дык паслухайжа, браточак,
Гэтакай вось рады:
Палюбі ты свой куточак,
Мову, строй, абрады.

А Стварыцель наш ласкавы,
Што вачэй ня зводзіць
З нас, убачыць твае справы,
Ў стокрот нагародзіць.

Канчаючы гэтыя кароткія ўвагі аб Зязюлі, трэба яшчэ дадаць, што гэта паэт вялікай духовай культуры. Мэтай яго песьняў — узбуджаны, адроджаны, шчасьлівы беларускі народ, а вядзе да гэтай вялікай мэты, паводле Зязюлі, толькі аружжа духа: шчырая любоў, гарачая вера, непадзельная цнота. Гэткім сапраўды быў ён сам, гэткага духа пакінуў нам і творы свае.

Асьвяці наш розум верай
Льгі надзею ў душы ўлі
І агонь любові шчырай
Ў сэрцах зімных запалі!

Пасьля-ж такой малітвы, пасьля такога душы сваей настрою, вось так пяе пясьняр наш:

Бушуе хай бура, віхор хай злуецца
Хай вецер панура завые на рэчца —
Я роднага краю, што рвецца да волі,
Ня здраджу ніколі.
Хай срэбра, дукаты мне сыпяць пад ногі
І скажаць: багаты будзь, кінь род убогі —
Я плюну з пагардай, народу-ж і волі —
Ня здраджу ніколі.
Да самага скону, усякім прымусам
І сіле прыгону скажу: беларусам
На век астануся, сваей ўласнай волі
Ня здраджу ніколі!

Гэтак прысягнуў пясьняр наш народу свайму. Прысягаў і прысягі сьвята датрымаў. Служыў ён народу верна ня толькі звонкай песьняй сваей, але служыў яму такжа і звычайнай шэрай грамадзкай працай: жывым словам, беларускай газэтай і кніжкай, нясучы ясны прамень сьвятла ў цёмную глуш беларускую, сапраўды не зважаючы ні на буры ні на віхры, якія злосна гудзелі над галавой ягонай. Зязюля — гэта праўдзівы ідэаліст, гэта мучанік за родную ідэю. Гнаны польскай духоўнай уладай за сваю беларускасьць з парафіі ў парафію, а часта і цалком пазбаўлены за гэта пасады, туляўся бяздомны па шырокай Беларусі ад таварышоў да таварышоў, ад знаёмых да знаёмых, ад прыяцеляў да прыяцеляў, носячы ў вялікай душы сваей крыўду і ніколі не гаснучы жар любові да падняволенага народу.

**А. Сакалінскі.**

# Аб палітычных і грамадзкіх кірунках у мінуўшчыне і сучаснасьці.

(Працяг, гл. № 13 „Шлях Моладзі“ 1930 г.)

## Анархізм.

Слова „анархізм“ выводзіцца ад грэцкіх слоў „ан“ (без) і „архэ“ (улада), дык пераложанае на нашу мову значыла-б тое самае, што „бязладзьдзе“.

Слова „анархізм“ дагэтуль ня мае яшчэ сталага значэньня. Бо анархістам ёсьць Крапоткін, вялікі ідэаліст і разам з гэтым матэрыяліст; анархістам ёсьць Талстой, які апіраўся на хрысьціянстве; анархістамі завуць сябе людзі, якія правы адзінкі ставяць вышэй за правы цэлага грамадзянства; анархістамі называюцца таксама розныя бадзякі і тэррорысты, якія свае нібы тэорыі думаюць увясьці ў жыцьцё пры помачы дынаміту і бомбы, — словам людзі розна разумеюць анархізм.

**Але навучны анархізм — гэта ёсьць грамадзкі кірунак, які вядзе да перабудовы грамадзкага ладу, зносячы прыватную ўласнасьць і не прызнаючы ніякага прымусу і ўлады.** Вучыцелямі такога анархізму былі Бакунін, часткова Талстой, а асабліва Пётр Крапоткін.

Крапоткін радзіўся ў 1842 г. Вучыўся ён у пажэскім корпусе ў Пецярбурзе, потым выехаў у Сібір, куды цягнула яго большая свабода жыцьця і дзе ён мог аддацца навучным дасьледам. Займаўся там дасьледамі над грамадзкім жыцьцём, а так-жа географіяй і геолёгіяй Сібіру.

Вярнуўшыся ў Пецярбург, Крапоткін пастанавіў паглыбіць сваю веду і паступіў на матэматычны факультэт пецярбурскага ўнівэрсытэту. Пасьля выехаў у Зах. Эўропу, дзе спаткаўся з тагочаснымі соцыяльнымі імкненьнямі. Тут выrabляецца з яго тып рэволюцыянера, які ня толькі абураецца на грамадзкую несправядлівасьць, але думае над тым, якім парадкам ухіліць гэту несправядлівасьць—і прыходзіць да стварэньня новай тэорыі грамадзкага жыцьця — анархізму. Зараз потым варочаецца ў Пецярбург, дзе яго арыштоўваюць і садзяць ў Петрапаўлаўскую крэпасьць. Аднак яму ўдаецца ўцячы ізноў заграніцу, але й там яму не даюць спакою; урэшце прыяжджае ў Англію, дзе займаецца навучнай працай, пішучы творы аб анархізьме. У 1917 годзе, зараз пасьля рэволюцыі, Крапоткін прыяжджае ў Расею, аднак далейшыя рэвалюцыйныя падзеі ідуць не па думцы Крапоткіна. Будучы праціўнікам усякай улады, ня мог ён уважаць комуністычнай дыктатуры за свой ідэал —

і хоць гэта была работніцкая ўлада, але ўсёж-такі ўлада, якая апіралася на прымусе і цяжка душыла грамадзянства. Многа клопату нарабіла Крапоткіну аружнае змаганьне на вуліцах Масквы паміж анархістамі і комуністамі зараз пасьля комуністычнай рэвалюцыі. Апошнія гады Крапоткін праверў над працай, каб даць анархізму поўныя навучныя асновы. Памёр у 1921 г.

Якая-ж тэорыя Крапоткіна і наагул так зв. „навучнага“ анархізму?

Навучны анархізм перадусім выступае проціў усякай улады, якая апіраецца на сіле і прымусе. Крапоткін цьвярдзіў, што кожная людзкая арганізацыя (грамада, гміна, рабочае прадпрыемства, а нават дзяржава) павінна апірацца не на прымусе, а на поўнай свабодзе. Хоча чалавек належаць да якой арганізацыі — належа, а ня хоча, зараз-жа мае права выступіць і ніхто ня можа яму ў гэтым перашкодзіць. **Мэтода вольнага супрацоўніцтва паміж вольнымі людзьмі** — вось ідэал анархізму. Затым ўсе коопэрацыі і ўстановы для супрацоўніцтва паміж людзьмі ставяцца анархістамі вельмі высока. Гэтыя ўстановы апіраюцца не на сіле, а на **вольным** супрацоўніцтве паміж людзьмі. Анархісты вераць, што не на сіле і дыктатуры можна збудаваць трывалы і справядлівы лад, а толькі на этычных асновах чалавека, на яго дабраце і грамадзкім сумленьні, якое загадывае яму рабіць тое, што трэба, для супольнага дабра. Калі анархісты і прызнаюць якую ўладу, дык толькі кіруючую (так як напр. у коопэратыве), але ніколі загадываючую пад страхам кары.

Гэтым пунктам анархісты рожняцца ад камуністаў. Камуністы, як ведама, апіраюцца на сільнай арганізацыі, на ўладзе і на пашане гэтай улады. Дыктатура пролетарыяту — гэта адзін з найгалаўнейшых пунктаў комуністычнай праграмы. Пры помачы дыктатуры і сілы яны думаюць перабудаваць грамадзянства. Ня тое ў анархістаў. Яны апіраюцца на самай натуры людзкой, на людзкім сумленьні, на тых натуральных здольнасьцях людзкіх, якія толькі трэба прабудзіць і даць ім магчымасьць разьвіцьця і яны, паводле анархістаў, перабудуюць грамадзянства... Сіла, паводле анархістаў, ня мае ніякага ўзгадаваўчага значэньня, яна не ўзгадоўвае, а прыводзіць людзей да яшчэ большага азьвярэньня. Анархісты кажуць, што каб зьмяніць грамадзянства, трэба зьмяніць адзінкі, г. зн. скіраваць іх думкі, пагляды і імкненьні ў кірунку дабра.

Чалавек паводле анархістаў — гэта грамадзкая адзінка, якая мае ў сабе ўсе задаткі дабра, каторыя трэба толькі разьвіць і паглыбіць. Гэтае разьвіцьцё і паглыбляньне, паводле адных, мае апірацца на розуме (Крапоткін), а паводле другіх — на хрысьціянстве (Талстой). Гэтыя задаткі

дабра анархісты называюць этычным элемэнтам чалавечай натуры і на гэтым этычным элемэнце думаюць пабудаваць новае жыцьцё, абапёртае не на сіле ўлады, а на вольнай арганізацыі, на вольным сужыцьці адзінак.

Асновываючыся на гэтым, ідэйны анархіст ня верыць у ніякую сілу і не спадзяецца сілай перамяніць грамадзкі строй: ён хоча перамены душы людзкой. Калі нават анархіст і кідае бомбу, дык не на тое, каб самому захапіць уладу, але на тое, каб зьнішчыць сілу, якая не пазваляе людзям адчыніць вачэй і глянуць на вольны шлях.

Тады, калі ўвесь комунізм — гэта барацьба за ўладу, то ўвесь анархізм — гэта барацьба проціў улады.

Калі комуніст глядзіць на чалавека, як на нешта паганае і сапсутае і хоча сілай яго прымусіць рабіць так, а ня йнакш, то анархіст у кожным чалавеку стараецца відзець толькі дабро — толькі трэба гэтае дабро вызваліць і даць яму магчымасьць разьвіцьця. Паводле анархістаў, цяперашняе жыцьцё так сапсута і зьвіхнута гістарычнымі абставінамі, што чалавеку трудна выбрацца на шлях поўнага анархізму, затым трэба бомбай і дынамітам руйнаваць стары парадак і гэтакім чынам прабудзіць людзкое сумленьне да новага жыцьця.

Вось і будзе тэорыя анархізму ў галоўных рысах. Як бачым, анархізм пабудаваны на вельмі ідэальных асновах, якіх у жыцьці людзкім трудна і знайсьці. Затым усе людзі, якія любяць апірацца на сіле і арганізацыі (комуністы, фашысты) сьмяюцца з анархістаў і называюць іх філёзофічнымі цялатамі, няздольнымі да жыцьця.

Як бачым, у тэорыі анархізм шмат у чым падобны да комунізму і соцыялізму (касуе прыватную ўласнасьць), падобны да дэмократызму, бо стаіць за роўнасьць, вольнасьць і брацтва ўсіх людзей, але ў практыцы ён рожніцца ад гэтых і ад усіх іншых грамадзкіх і палітычных кірункаў. Ён дае найболей свабоды людзям, зносіць усякую прымусовую арганізацыю і ўладу — і затым ён мае так мала прыхільнікаў у нашыя часы, дзе ўсё грамадзкае жыцьцё пабудавана на арганізацыі і сіле.*)

І так мы ўжо прагледзілі ўсе важнейшыя палітычныя і грамадзкія кірункі ў сучаснасьці і мінуўшчыне. Крытыку гэтых кірункаў мы астаўляем на другі раз. Ваг.

*) Да анархізму падобны нігілізм, каторы не прызнае ніякіх грамадзкіх, этычных і рэлігійных асноў (ад лацінскага слова „нігіль“, што зн. нішто). Калі анархісты прызнаюць сям'ю — такую арганізацыю, дык нігілісты і гэтага не прызнаюць. Яны хочуць зруйнаваць усё з тым пракананьнем, што на руінах старога сьвету зродзіцца новы, дзе будзе панаваць неагранічаная свабода. З гэтай мэтай нігілісты праводзілі ў Расеі (у другой палавіне 19 стагодзьдзя) крывавы тэрор, ад якога зьгінула шмат царскіх ўрадаўцаў. Аднак бядзе не памаглі. Нігіліст ёсьць самым скрайным кірункам анархізму. Для нігілісты няма ніякага права — ён адкідае і руйнуе ўсё. У свой час іх уважалі за людзей шалёных.

**Вольная Трыбуна.**

# Адказы і ўвагі на пытаньне: Якімі літарамі маемо друкаваць „Шл. Моладзі“.

*Зьмяшчаючы адказы і ўвагі ў справе так важнага пытаньня, якімі літарамі маемо друкаваць „Шлях Моладзі“, паважаным аўтарам даем поўную свабоду выказываць іх думкі.*

РЭДАКЦЫЯ.

I.

Наўперад трэба падзякаваць рэдакцыі „Шляху Моладзі“ за тое, што зьвярнула ўвагу на справу надта важную для нашага жыцьця, як культурнага, так палітычнага, а таксама рэлігійнага. Гэту справу трэба нам добра абгаварыць, разгледзіць і разьвязаць.

На мой пагляд — усе беларускія газэты і кніжкі трэба друкаваць лацінкай, а не гражданкай. Прамаўляюць за гэтым:

**I. Доказ культурнага характару.** Прымаючы лацінку — мы навядзем лучнасьць з Захадам, з заходняй культурай і маем магчымасьць выкарыстаць яе багацтвы для нашага культурнага жыцьця.

**II. Доказ палітычнага характару.** Прымаючы лацінку, мы адгароджваемся ад нашага найбольшага ворага — ад Масквы, якая прадусім хоча, каб не дапусьціць да адраджэньня і свабоды нашага беларускага народу. Трэба бліжэй пазнаць, пагаварыць з прадстаўнікамі народу маскоўскага (вялікарускага), каб праканацца, што ўсе яны, зачынаючы ад арыстакрацыі і народнікаў, а канчачы на прадстаўніках дэмакрацыі і камуністах, носяць тую самую ненавісьць да самастойнасьці беларускага народу. Трэба нам гэта ведаць і ўсё зрабіць, каб у сьведамасьці нашага народу аддзяліць яго ад Масквы.

Дык вось і трэба прыняць нам лацінку, каб аддзяліцца ад Масквы. Ня трэба баяцца таго, што лацінка нас зблізыць да палякоў і гэтым паможа палянізацыі. Ад палякоў аддзяляе наш народ **наша мова**, а літарамі трэба аддзяліцца ад маскалёў, да мовы каторых наша мова падобная больш, як да мовы польскай.

**III. Доказ рэлігійнага характару.** Трэба нам імкнуцца да таго, каб у нашым народзе наступіла еднасьць рэлігійная — еднасьць з хрысьціянскім заходам — з Рымам. І што-ж нас больш злучае: гражданка ці лацінка? Граж-

данка прыпамінае нам Маскву і як доўга Масква будзе цэнтрам адлучэньня ад Рыму, так доўга гражданка будзе кланіць і псыхіку нашага народу да такога-ж адлучэньня і разьяднаньня... А ўнія з Рымам — гэта дарога да сілаў праўдзівых, людзкіх і божых, — каторыя дадуць адраджэньне нашаму народу!

**IV. Доказ практычнага характару.** Жыцьцё эканамічнае, школьнае, грамадзкае, палітычнае — словам, поўнае жыцьцё, вымагае, каб прыняць лацінку, прадусім у нас, у той часьці нашай Бацькаўшчыны, каторая знаходзіцца пад Польшчай. Думаем аднак, што прыдзе час, што і Беларусь Савецкая прыме лацінку, бо німа падстаў трымацца гражданкі, якая аддзяляе нас ад жарала культуры і спыняе нам нашае жыцьцё.

І так паводле мяне трэба друкаваць „Шлях Моладзі" лацінкай выключна.

**Кс. Др. К. К—к.**

II.

З артыкулу „Якімі літарамі маем друкаваць „Шлях Моладзі", выглядае, што Паважаная Рэдакцыйная Калегія „абавязкава" хоча друкаваць „Шл. Моладзі" лацінкай з тых прычын, што „Ш. М.", „як відаць з самога назову, зьяўляецца часопісяй беларускай моладзі ў Зах. Беларусі. У гэтымжа нашым краі, як ведаем, беларускіх школ так як і няма. Беларускія дзеці змушаны хадзіць у школы польскія, дзе яны пазнаюць толькі польскую азбуку і гдзе рэч ясная, аб гражданцы няма і мовы... ...Адгэтуль ясна, што патрэбная беларуская літэратура лацінкай". Далей — „З другога-ж боку моладзь наша забываючыся гражданку, гэтым самым аддаляецца ад усей тэй духовай беларускай культуры, якая тварылася даўней і творыцца цяпер пераважна гражданкай". Ясна відаць, што Рэдакцыйная Калегія ўжо здэцыдавалася ўвесьці лацінку, аднак, на мой погляд, гэта было-б крыху накшталт „самабічаваньня".

**Першае:** Калі Польшча была пад заборам Расеі — школы мела расейскія, гдзе-недзе ў цэнтры Царства Польскага польская мова дапускалася, як прадмет, аднак-жа ўсе дзеці польскія ведалі лацінку і чыталі па ей; нават палякі накінулі лацінку нашым каталіком.

А ці-ж ня была кірыліца дзяржаўным друкам, як для праваслаўных так і каталікоў за часоў Вялікага Князства Літоўскага? Толькі ўмелая палітыка палякоў выгнала яе з ужытку перш у каталіцкім жыцьці, а потым і ў праваслаўным.

Гражданка ў мінуўшчыне займала віднае палажэньне ў ва ўсіх галінах грамадзкага жыцьця — гэтага хіба ня

трэба даказваць. Гражданка зьяўляецца так-жа друкам агульна-славянскім — гэта таксама ведама.

**Другое:** Каталікоў у Зах. Беларусі менш, чым праваслаўных, а ці-ж сьведамыя каталікі не дамагаліся ад „Бел. Крыніцы", каб яна друкавалася гражданкай? Вынік — „Бел. Крыніца" друкуецца і гражданкай і лацінкай, што яшчэ ў 1923-24 годзе было немагчымым. Значыць, сымпатыі нават каталікоў астаюцца за гражданкай, як за друкам родным беларускім.

**Трэцяе:** Прыймаючы пад ўвагу мінуўшчыну і яе пасьледзтвы: барацьбу палітычна-грамадзкую, — каб нават лацінка была ідэалам друку — ня варта было-б мяняць на яе гражданку, бо астатняя мае больш праў на жыцьцё ў беларусаў!

Праўда, дзеткі нашы вучацца па польску, а паслухайце, як яны чытаюць і дэклямуюць пабеларуску з гражданкі! А хто іх вучыць? Ніхто. Адзін другога. Дык чаму мы беларусы маем закінуць свой родны друк, якім карыстаюцца многія славянскія народы?

Падаю голас **выключна за гражданку,** як друк агульна-славянскі!

**М. Вінцукевіч** — селянін, 26 г.

АД РЭДАКЦЫІ. Паважаны грам. Вінцукевіч на пачатку свайго артыкулу цьвердзіць, што мы „абавязкава" хочам лацінкі. Вось-жа гэтага мы не сказалі, мы толькі паказалі на тыя агульныя доказы, якія прамаўляюць за лацінкай. З другога боку паказалі мы так-жа і тыя прычыны, якія вымагаюць гражданкі, аб чым грам. Вінцукевіч чамусьці замаўчаў, бо цытуючы нашы словы аб гражданцы, не дасказаў аснаўнога нашага выражэньня: „адгэтуль вынікае патрэба ведаць гражданку". (Гл. № 13 „Шл. Мол.", 1930 г.). Далей „Бел. Крыніца", памінаючы ўсякія матывы палітычныя, друкуецца апрача лацінкі і гражданкай не на дамаганьні беларусаў каталікоў, як кажа грам. В., бо гэтага ня было, а на дамаганьні беларусаў праваслаўных дзеля большай для іх даступнасьці.

# Адкуль жыцьцё на зямлі.

Біолёгія, навука аб жыцьці, стаіць перад адным з найважнейшых і да сягоньня неразьвязаным пытаньнем: адкуль узялося жыцьцё на зямлі. Вучоныя аб гэтым стварылі розныя гіпотэзы (домыслы), якія, хоць ніякага канкрэтнага навуковага выясьненьня паходжаньня жыцьця не даюць, аднак уводзяць нас у глыбіню гэтае справы.

Апіраючыся на гэтых гіпотэзах, можна судзіць, што на жыцьцё ёсьць выробленыя прадусім два пагляды: адзін — што жыцьцё ёсьць вечнае і незьнішчальнае, а другі — што жыцьцё само тварылася.

У першым выпадку жыцьцё можна прыраўнаваць да матэрыі ці энэргіі, якія ёсьць нязьнішчальныя. Вось палючы, прыкладам, дрэва, мы замяняем яго на газы: вуглекіслы газ ($CO_2$), пару вадзяную ($H_2O$), і попел. Выдзяляецца пры гэтым пэўная часьціна энэргіі, цяплынёвай. Вага спаленага дрэва ёсьць роўная вазе атрыманых газаў і попелу. Таксама атрыманае цяпло, энэргію, можам замяніць на другую энэргію, нр. на энэргію мэхавічную, як гэта робіцца, хоць са стратай, у маторах.

У другім выпадку жыцьцё павінна было-б паўстаць у адпаведных абставінах з матэрыі само праз сябе, бяз ніякіх прычынаў.

Стоячы на грунце першага з вымененых паглядаў, спатыкаемся з цэлым радам тэорыяў вялікіх вучоных, якія даводзяць, што дарэмнай працай ёсьць шукаць пачатку і канца жыцьця. І так, паводле Прэйэра жыцьцё існуе ад веку, як і матэрыя. І калі паводле тэорыі Кант—Ляпляс'а зямля, як і ўсе нябесныя целы тварылі адну паўплыннагазовую распаленую масу, якая была ў вечным паступова абаротным руху, тады гэта маса тварыла адно жыцьцё. Далей, калі з гэтае масы сталі адрывацца штораз то новыя кускі—сьветы, як нр. зоры, сонца, зямля, яны пачалі астываць, якбы ў іх жыцьцё—паводле Прэйэра—стала заміраць. Аднак гэтыя нябесныя творы былі якбы жывымі арганізмамі, якіх ядой былі мэтэорыты (кавалкі адарваўшыхся ад другіх плянэт), аддыханьнем — сьвецячая пара жалеза, а крывёй—растопленыя мэталы.

Гіпотэза гэта, характэрызуючая жыцьцё як рух, стаіць у супярэчнасьці з агульным поглядам на зьявішча жыцьця, катораму прыпісваецца да гэтага цэлы рад другіх прыметаў. Рух у працесе жыцьця мае другараднае значэньне. Найгалаўнейшым і неабходным варункам жыцьця ёсьць плязма, субстанцыя арганічная, якая на'т пры 100°С раскладаецца, а ці-ж магла-б яна існаваць пры некалькі дзесяткаў тысяч градусаў тэмпэратуры? Далей, рух на зямлі, хоць яна і астыла, існуе. Як выкрыў Бровн, маленькія частачкі матэрыі ёсьць заўсёды ў руху, аднак гэта як найменшы мае ўплыў на сам працэс жыцьця, як і на яго паходжаньне.

(п. б.) Я. Малецкі.

# Літэратурны аддзел.

* * *

Іскрыцца белы сьнег,
Паўзе срыбрысты шлях,
Люблю я санак бег
З гары на перацяг.

Палозьзяў звоніць сталь,
Ўздымае сьнежны пух,
Імгліцца толькі даль,
Навокал белы круг.

Сьлед ўецца быццам ніць,
Ў прасторах гіне ён,
Ў вушах адно гудзіць
Павеваў ветру звон.

І з прагай вусны п'юць
Паветра сьвежы хмель,
Уючыся ў даль лятуць
Пушынкі, сьнегу бель.

**А. Бартуль.**

## НАПЕРАД МАРШ.

Прышоў ўжо час,
Браты, для нас,
Хто Беларус—
За Беларусь!
Наперад, марш!
Наперад марш!
Хутчэй ўставай,
Братоў ўзывай,

Хто сьпіць—будзі!
Сьмялей ідзі!
За родны край
Жыцьцё аддай.
Ўставай-жа брат,
Сын цёмных хат!
На сьвет выходзь,
Ніву скародзь,

Блізкі для нас
Сьвітаньня час!...

**Леанід з пад Вішнева.**

## АСІНА.

Што стаіш так сіроцінай
Пры дарозе ля сяла?
Зьняважана на'т скацінай,
Зьнікуль жаласьці няма!

Ты трасешся,—чуваць шорах,
Як-бы маеш нейкі страх;
Пэўна ўспомніла, як вораг
Тут калісь гасьціў у нас.

Ой ня добрая гасьціна,
Тут адбылася у нас...
Не адна йшчэ матка сына
Мо' аплаквае ня раз.

Кулі груганьнём лятали;
Сьмерць насілі па зямлі;
Й дзікім сьмехам рагаталі,
Што даволі ім крыві.

Усё скрывалась. Ты-ж стаяла
Адна, гэтак, як цяпер;
Аж зблудзіўшаяся куля
Рвала сэрца нібы зьвер.

Ўсё прайшло. Час раны лечыць,
Але зраненай душы,
Калі раз хто акалечыць,
Не загоіш ўжо нічым.

**Я. Салавей.**

* * *

Чаму ты месяц так зіяеш
І бледны сьвет праз вокны льеш—
Ці-ж ты, каханы мой, ня знаеш,
Што гэтым спаць мне не даеш?!

Нашто наводзіш сум на душу,
Нашто трывожыш ціхі сон?
І без таго мне дрэнна—мушу
Аплакваць хвілі даўных дзён.
Ты бледным сьветам ціхай ночы
Жыцьцё былое ўваскрасіў,
Той час далёкі, час урочы
Ў каторым я шчасьлівы быў.
О, бледны месяц, Бог з табою,
Нашто наводзіш столькі дум,
Нашто зіяеш тэй начою
Ў каторай сэрца чуе сум?!

**Ар-Ар.**

## Я-Б ХАЦЕЛА...

*(Прысьв. С. Б.)*

I.

Я-б хацела ляцеці туды,
Дзе няма ні нуды, ні пракляцьця,
Дзе ня ведаюць стогнаў, жуды,—
Дзе ўсе людзі зжыліся, як брацьця;
Дзе інакшы парадак ў жыцьці,
Дзе зімовы віхор ня віхрue,
А заўсёды ўва ўсім разьвіцьці
Прамяністае сонца пануе.
Толькі там — у тым сьвеце сьвятым,
Што так ясным ўваччу станавіцца, —
Я-б хацела пажыць... а пры тым —
Адпачыць і аб суме забыцца.

II.

Я прыроду люблю без канца,
Люблю горы, палі, сенажаці,
Люблю лес, навет куст ялаўца
Мне ёсьць мілы, ёсьць любы, як маці.
Люблю гай, яго пахам дышэць,
Слухаць трэль салаўя вечарамі,
У вясёлкавы вочачкі краскаў глядзець,
Рваць гірлянды, — як слаўна часамі!

III.

Толькі родная мова адна
Можа ў сэрцы маім панаваці.
Бо красою багата яна...
Не магу я яе не кахаці!
Яе гукі прыгадваюць ўсё,
Што ёсьць блізка жыцьцём мне і міла,
Дык кахацьму яе над усё,
Пакуль будзе служыці мне сіла!
Буду родныя песьні пяяць,
Буду славіць красу роднай мовы
І нікому ня дам зьняважаць,
Свае песьні каханыя словы!

**В. Шкодзіч.**

# Лісты.

## ЯК АДБЫВАЕЦЦА ЛЕКЦЫЯ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ.

**М-ка Дэлятычы**, гміны Любчанскай, Наваградзкага пав. Ня гледзячы на тое, што ў Дэлятычах няма аніводнага паляка, школа ёсьць польская, бо бацькі вучняў ці то лянуюцца, ці яшчэ не разумеюць патрэбы свае роднае школы. Калі-ж бацькі маўчаць, дык самі вучні пачынаюць падымаць голас за правы свае роднае мовы, якую „выкладае“ ў нашай школе вучыцель-паляк. Аднаго разу сталася так: ўвайшоўшы вучыцель ў школу на лекцыю беларускае мовы, кажа да вучняў: дзеці, ксёнжкі маце“—маем, „зэшыты маце“—маем. Тагды ўстае з лаўкі вучань з чацьвёртага аддзелу, ды кажа: „пане вучыцель, чаму гэта як лекцыя беларускай мовы, то пан да нас гаворыць па польску, трэба-ж было-б гаварыць пабеларуску.“ Вучыцель тады давай вучня штурхаць і гаварыць: „а табе цо до тэго, як я зэхце так і бэндэ мувіць, бандыце ты едэн.“ Сорам Вам, сяляне бацькі, што Вашы дзеткі зразумелі аб патрэбе роднае мовы ў школе, а вы ня можаце прачнуцца ад свае сьпячкі дый паклапаціцца здабыць сваім дзеткам родную школу! А вам, дарагія дзеткі, чэсьць і слава! Шануйце сваю родную мову, а тагды і вас будуць шанаваць. Сірата.

## СЬЦЕРАЖЭЦЕСЯ ПРЫБЛУДАЎ.

**Парпліская гм.**, Дзісьненскі п. Нядаўна ў нас быў гэткі выпадак. Хлюбуць (нятутэйшы прыблуда), разнюхаўшы, што ў дзяўчыны з в. Барсукі Лені Вайцяховічанкі ёсьць пасаг трыста рублей, „pokochał“ яе. Мела быць вясельле. Х. прыехаў у сваты, але браты дзяўчыны, як людзі бывалыя і сьведамыя, ведаючы што тут крыецца, спрацівіліся. Дык тады Х. відзячы, што не на дурняў нарваўся, адразу „завярнуў калёсы“ і да другой... у сваты, а першая дзяўчына атрулася, бо ей, як казалі злыя языкі, ужо трэба было ісьці замуж.

Вось да чаго даводзіць знаёмства з наплывовым элемэнтам! Фаня.

## МОЛАДЗЬ ПРАЦУЕ.

**в. Кірдзеяўцы**, Тургельскае гм., Віл.-Троцкага пав. Ня так даўно ў нашай староцы ў в. Кірдзеяўцы моладзь залажыла Гурток Бел. Інстытуту Г. і К. Трэба зазначыць, што Гурток гэты па меры магчымасьцяў выпаўняе свае заданьні нішто сабе. І так маемо мы сваю бібліятэку-чытальню; сёлета летам быў у нас старшыня Інстытуту Кс. В. Гадлеўскі і чытаў лекцыю, якога паміж іншым моладзь наша дужа сардэчна прымала; на каляды зладзілі вечарыну і паставілі п'еску „Выбары старшыні“.

Хай праца гэта будзе прыкладам для моладзі іншых гмінаў. Язэп з пад Тургель.

# Куток для спорту.

## Була.

Гэта ёсьць беларуская народная зімовая ігра, якая вельмі прыпамінае англійскую ігру на лёдзе г. зв. „hockei".

Була сваім зьместам і яе карысьцяй ня ўступае найлепшым зімовым іграм іншых народаў, хаця-б высока стаяўшым спартова. Гэтая ігра ўсестаронна гімнастыкуе мускулы, і з боку выхаваўчага і грамадзкага ёсьць аднэй з найкарысьнейшых.

Яна адбываецца на непакрытым сьнегам лёдзе ракі, або возера і выконваецца гэтак: іграючыя робяць дзеравянную галку, аяо замест гэтага бяруць на скорую руку кароткае круглае палена, што называюць „булай".

Кожны мае галку, на канцы загнутую, якая называецца „качарэжкай". Учасьнікі выбіраюць матку. Пасьля падыходзяць да яе парамі з выдуманымі імёнамі. Кожная пара чародна кажа: „маці, маці! што табе даці: ці сьнегу, ці лёду?" — „Лёду!"

Той, хто называецца „лёдам," астаецца пры „матцы", а „сьнег" адыходзіць у другую партыю. Наступныя пары кажуць: „маці, маці!" што табе даці: ці зіму, ці лета? ці дзень, ці ноч? ці сасну, ці бярозу? і г. п., аж пакуль кожная пара надойдзе да маткі.

Разьдзяліўшыся гэткім спосабам на дзьве партыі, партыя маткі застаецца на месцы, дзе праводзіцца лінія „гораду", другая партыя ідзе „ў поле".

Матка з усей сілы б'е па буле качарэжкай: гоніць у поле. Дзеці маткі падганяюць качарэжкамі сунуўшуюся па лёдзе булу, каб падагнаць яе якнайдалей. Праціўная партыя стараецца затрымаць качарэжкамі булу і адбіць яе назад у горад.

Пры гэтым бывае вялікая заўзятасьць між ігракамі. Да булы найчасьцей падбягае двох, па аднаму з кожнай партыі.

Адзін размахіваецца сваей качарэжкай, каб удэрыць у булу і прагнаць яе ў праціўны бок, другі лоўка падстаўляе сваю качарэжку, каб адбіць булу ў бок ворага; далей яе падхватывае другая пара і г. д.

Калі-б дадаць да гэтай ігры учасьнікам канькі і ўстанавіць пэўныя, больш акрэсьленыя правілы ігры, як-жа яна была-б вельмі прыгожай нашай народнай зімовай ігрой спартовай.

Ул. Казлоўшчык.

# Хроніка

## З беларускага жыцьця пад Польшчай.

**Суд над былымі пасламі.** Ад 6 да 12 г. м. у Віленскім Акружным Судзе разглядалася справа б. беларускіх паслоў і іх супрацоўнікаў з Бел. Сял.-Раб. Пас. Клюбу „Змаганьне". Суд засудзіў б. паслоў Гаўрыліка, Дварчаніна, Крынчыка і Валынца на 8 гадоў катаргі; гр.гр. Астапчыка, Пяткуна і Жыткевіча на 4 гады катаргі; Тарасюка, Міску і Лукашыка на 2 гады крэпасьці.

**Суд над Рэд. „Б. Крыніцы".** 13 г. м. у Віл. Акружн. Судзе разглядалася справа рэдактара „Бел. Крыніцы" Янкі Пазьняка, абвінавачанага за сканфіскаваны нумар „Бел. Крыніцы". Суд Рэдактара Я. Пазьняка апраўдаў.

**Агульны Сход Беларускага Нацыянальнага Камітэту.** 1-га лютага с. г. у памешканьні на Людвісарскай вул. № 1—19 адбудзецца агульны сход Беларускага Нацыянальнага Камітэту.

**Паседжаньне Прэзыд. Ц. К. Б. Х. Д.** 14-га г. м. адбылося паседжаньне Прэзыдыюму Ц. К. Беларускае Хрысьціянскае Дэмократыі.

**Паседжаньне.** 8-га лютага с. г. адбудзецца паседжаньне Рады Беларускага Інстытуту Гасп. і Культуры.

**Агульны сход.** 1-га лютага с. г. у Вільні ў памешканьні Бел. Інстытуту Г. і К., Людвісарская вул. 1 а гадз. 6 адбудзецца агульны сход Віленскага Гуртка Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры.

**Беларуская жаночая арганізацыя.** У Вільні на днях паўстала Беларуская жаночая арганізацыя ім. А. Цёткі, на чале якой стаіць А. Астроўская.

**Беларускія прадстаўленьні.** 17. г. м. Бел. Студ. Саюз ладзіў у Віл. Бел. Гімназіі прадстаўленьне. Ставілі камэдыю Я. Коласа — „Несьвядомы элемэнт".

— 25. XII. 1930 г. Жодзішкі Гурток Інстытуту, Вялейскага пав., ладзіў прадстаўленьне. Адыграна была камэдыя п н. „Пан Міністар".

— 8-га г. м. Шутаўскі Гурток Бел. Інстытуту, Ашмянскага пав., ладзіў прадстаўленьне ў в. Сьвірыдавічах, Смаргонскай гм. Ставілі „Апошняе спатканьне". Той-жа Шутаў-

скі Гурток Інстытуту дня 10-га студня с. г. ладзіў у сваей вёсцы прадстаўленьне. Ігралі сцэнічны абраз п. н. „Атрута“.

1. II. с. г. вучні Віл. Бел. Гімназіі ладзяць вечарыну, у часе якой будзе адыграна драма „Дзядзька Якуб“.

## З жыцьця Б. С. С. Р.

**Тыдзень Б. С. С. Р.** У Маскве і цэлай Расеі бальшавікі ладзілі „Тыдзень Б.С.С.Р.“—г. зн. тыдзень Беларусі,—у часе якога ў Маскву прыяжджала спэцыяльная дэлегацыя з Менска, якая выхваляла комуністычныя парадкі, а комуністы выхвалялі Беларусь, хочучы гэтым самым як найбліжэй яе да сябе прыцягнуць.

— Паводле апошніх вестак з Менска Ц. К. Комуністычнай Партыі Беларусі на сваім апошнім паседжаньні выкінуў з Комуністычнай Партыі праф. Ігнатоўскага, народнага камісара прасьветы і прэзыдэнта Беларускай Акадэміі Навук, і паэта Жылуновіча (Цішку Гартнага), б. старшыню камісараў Б.С.С.Р., за тое, што яны быццам скрывілі комуністычную лінію.

## З беларуска-украінска-літоўскага жыцьця ў Амэрыцы.

**Агульная салідарнасьць беларусаў, украінцаў і літоўцаў.** У Амэрыцы сярод беларускіх, украінскіх і літоўскіх эмігрантаў даецца заўважыць асаблівая салідарнасьць. Ладзяць яны супольна свае народныя сьвяткаваньні а так-жа і пратэстацыйныя вечы супроць крыўдаў сваіх народаў пад Польшчай дазнаваных ад апошняе. На чале беларускіх эмігрантаў стаіць Язэп Варонка, б. старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, і кс. праф. Я. Тарасэвіч; на чале украінскіх — др. Сіеменовіч.

## З Польшчы.

**Безрабоцьце** пануе вялікае і ўсё больш пашыраецца. Апошнім часам налічаецца ўжо безработных 333,124 асоб.

**У Сойме і Сэнаце** йдзе цяпер дыскусія над буджэтам, а так-жа разглядалася інтэрпэляцыя ў справе падзеяў у Берасьцейскай турме. Прапазыкі паданыя ў інтэрпэляцыі Сойм і Сэнат адкінуў. Адкінута так-жа і справа ўкраінскае прапазыкі аб пацыфікацыі ў Галіччыне.

## З заграніцы.

У Індыі ангельскія ўлады звольнілі з вастрогу правадыра індусаў Гандяга і другіх выдатных індускіх дзеячоў і даюць ім магчымасьць сабрацца на свайго часу разагнаны тымі-ж уладамі індускі кангрэс, дзе паміж іншым мае

*СЯБРЫ РЭДАКЦЫЙНАЙ КАЛЕГІІ:*
*Язэп Найдзюк, Ізабэля Тумаш і Альфонс Шутовіч*

Рэдактар Мар'ян Пяцюкевіч. Выдавец Янка Багдановіч